STUDENCKAJA DUMKA

ЛІСТАПАД 1993

Pereat tristitia
Pereant dolores,
Pereati diabolus,
Quivis antiburschius
Atque irrisores!

(Хай зьнікне туга,
Хай зьнікне наш смутак,
Хай загіне д'ябал,
Усе ворагі студэнтаў
і сьмяючыеся над імі!)

Гэтым пранікнёным радкам старажытнага "Гаудэамуса" (зь якіх будзе пачынацца кожны наступны нумар "SD") мы й прысягаем верна служыць у сваёй працы над газэтай.

А зараз колькі цёплых слоў пра сябе. У пачатку гэтага году мы пакінулі такое звыклае й утульнае становішча "падпольнага" выданьня і атрымалі афіцыйную рэгістрацыю пад нумарам 732. Хочацца верыць, што гэта магічная лічба шчасьлівая, якае прынясе посьпех ня толькі нам але усім нашым прыхільнікам. Як раней, паважнае месца на старонках газеты будзе адведзена праблемам гісторыі й культуры. Але паспрабуем трах спусьціца й на зямлю, якую апанаваў д'ябал, зь якім мы абяцалі змагацца.

"Сябры, прысягайце змагацца сумленна
Хоць бой і ня роўны, хоць біцца дарэмна"

Гэткім чынам думаем значна больш зьвяртацца да студэнцкіх праблемаў, гэта з аднаго боку. З другога, паспрабуем дапамагчы тыя праблемы вырашыць ці, хаця, зьменьшыць іх. Для гэтага усё падыдзе. Будзе на старонках "SD" белы й чорны гумар, будуць карысныя парады й інфармацыя, будзе усе тое што, на наш погляд, прыдасца беларускаму студэнту. Паспрабуем надрукаваць колькі цікавых інтэрвью з людзьмі ад якіх залежыць вырашэньне нашых праблемаў. Але найперш хочам паказаць, што спадзявацца нам прыдзецца толькі на самых сябе, бо так збудаваны Сьвет. А таму знойдзеце у нас матар'ялы пра студэнтаў і іх жыцьцё далёкіх і блізкіх краінах, можа пераймём што з іх досьведу, а ня будзем ісьці зноў сваіх шляхам. Пішыце нам і мы будзем рады улічваць вашыя парады й пажаданьні.

Рэдакцыя

AD REDAKCYI

# ЗЬМЕСТ

найгалоунейшых прыкметау вышэйшых навучальных установау таго часу). Некаторыя дасьледчыкі мяркуюць, што падставаю для заснаваньня акадэміі паслужыла падрыхтоука да выданьня Статуту ВКЛ 1588 году. Кіравау навучальняй гішпанец Петэр Раізі, які адначасна чытау рымскае, саксонскае і магдэбургскае права; выкладалася у акадэміі й вялікалітоускае права. Даводзіцца адно шкадаваць, што праэь нястачу дакумантау ня вызначаны дагэтуль адукацыйны статус заснаванай з ініцыятывы караля Жыгімонта Аугуста акадэміі.

Асобна стаіць у гісторыі беларускай вышэйшай адукацыі Віленскі папскі алюмнат. Спачатку будзе дарэчы высьненьне самога найма "алюмнат". Дык вось, памкненьне Ватыкана задзіночыць усходняе й заходняе хрысьціянства сталася даволі выразным у другой палове XVI стагодзьдзя. Было вырашана весьці адмысловую падрыхтоуку праваслаунага духавенства. Для гэтага папа Рыгор XIII заснавау у Рыме у 1577 г. грэцкую акадэмію- алюмнат, дзе пераважна навучаліся праваслауныя хлопцы з Грэцыі. Алюмнату папа надау усе тыя правы й прывелеі, якія мелі Рымскія галоуныя курсы (езуіцкая акадэмія); спасярод гэтых правоу - дазвол даваць студэнтам навуковыя ступені ад бакаляурау да дактароу і магістрау. У валюмнат прымаліся толькі здольныя хлопцы ня старэйшыя за 14 гадоу. У тым жа 1577 годзе колькі месцау у гэтую навучальню было адведзена для праваслауных беларусау, некаторыя зь якіх пасьля сталіся ініцыятарамі Берасьцейскае царкоунае вуніі (1596). Зь цягам часу алюмнаты паусталі у некаторых эурапейскіх краінах, дзе заусёды займалі асобнае месца у вадукацыйнай сыстэме, з"уляліся наднацыянальнымі, падпарадкоуваліся толькі Папе рымскаму. Адметна, што нацыянальны склад алюмнатау не вызначауся месцам, дзе знаходзілася установа.

Віленскі алюмнат (або сэмінарыя)быу адчынены у 1583 годзе. У 1586- 1590-х гг. тамака студыявалі юнакі з Польшчы, Швэцыі,Нямеччыны,Ангельшчыны, Даніі ды іншых гаспадарствау.Віленская навучальня,аднак,не падпадала пад агульнае правіла,і у ёй вучылася шмат беларусау.Гэта абумоулівалася вялікай патрэбаю вуніяцкае царквы у вадукаваных кадрах пад час супрацьстаяньня усходняга й заходняга хрысьціянства у ВКЛ. На мяжы XVI і XVIIстст. алюмнат пераходзіць ад езуітау пад апеку вуніятау. На пачатку XVII ст. была скасаваная умова абавязковага прыйма алюмнамі духоунага сану. Дакладна ведама, што Віленская установа давала толькі вышэйшую адукацыю.

Гэткім парадкам, мы наблізіліся да аднаго з найадметнейшых этапау развою беларускае вышэйшае адукацыі - часу існаваньня Віленскага унівэрсытэту.

(працяг у наступным нумары)

НЯ ЧЫТАЙЦЕ!

Як добра ведама,дауней на Беларусі жыло шмат розных дзікіх, зараз дауно вымерлых,зьвярoу. Чаго толькі ня апавядалі раней пра ніх. Сярод такіх страшыдлау былі й звыклыя , здавалась, сьвіньні.Гэтак яшчэ у мінулым стагодзьдзі... Але падрабязьней пра гэта з кнігі Шпілеускага "Падарожжа па Палесьсю і Беларускаму краю"

"...Аднак меншчына сьлынна добра адкормленымі сьвіньнямі... Сьвіньні бываюць двух сартоу: адныя - шарападобныя,з стаячымі вушамі й узкудлачанай шчэцьцю на хрэбтах; другія - выцягнутыя,з абвіслымі вушамі і амаль бяз шчэці; у Ігуменскім уездзе бачыу я трэці сорт сьвіней - з васемьмю капытамі на чатырох нагах..."

Такія дзеіліся рэчы...



Жаўнер Ваня піша лісты дамоў
Люблін вольны - Ваня
Берлін вольны - Ваня
Ваня вольны - Парыж



З ВАЙЦЯХОВІЧ Ю БУШЛАКОЎ

Гэтта сёньня хочацца закрануць пытаньне мінуўшчыны вышэйшай адукацыі для беларуса- вялікаліцьвіна. На жаль, катарага ужо разу даводзіцца канстатаваць пра слабую дасьледаванасьць падыманае тэмы. Таму падаем адно некаторыя ведамкі па азначаным пытаньні, каб хоць у вагульных рысах паказаць шляхі набыцьця найвышэйшае веды нашымі продкамі.

Зацемім, што ужо на прыканцы XIV ст. насельнікі Вялікага княства Літоускага мелі доступ да унівэрсытэцкае асьветы. Гэтак у 1364 годзе (паводле іншых зьвестак у 1347) быу заснаваны Кракаускі унівэрсытэт. Прауда, да 1400 г. ён прызначауся блізу вылучна для палякау, а беларусы мелі магчымасьць трапіць туды адно выпадкова у якасьці чужаземцау. Але спакваля у сфэру уплыву унівэрсытэту уваходзіць і ВКЛ. Як ведама, у тым часе дачыненьні Польшчы і ВКЛ адбываліся на падставе палажэньняу крэускае дынастычнае вуніі (1386), таму унівэрсытэт стауся агульнай вышэйшай навучальнай установай для двох гаспадарствау. Па хуткім часе (у 1409г.) у Кракаве збудавалі першую бурсу (агульнажытак, інтэрнат), якая прызначалася якраз для студэнтау- беларусау. Кракауская навучальня адыгрывала вялікую ролю у васьвеце нашых продкау на працягу XV ст. і у першай палове XVI ст. Шмат хто зь іх дасягнуу вялікіх посьпехау у навучаньні. Прыкладам, другім па ліку рэктарам гэтага унівэрсытэту быу беларус Ян Вайдут з Драгічына, які заняу сваю пасаду у 1401 годзе. Ёсьць ведамкі, што у XV ст. 67 студэнтау з ВКЛ абаранілі ступень бакаляура, а 17 студэнтам толькі аднаго з факультэтау была нададзена годнасьць магістрау, што давала ім права выкладаць у якім любя унівэрсітэце Эуропы. Варта падкрэсьліць, што толькі заснаваньне Віленскага унівэрсітэту у 1579 годзе зьменшыла для вялікаліто уск іх студэнтау значэньне Кракаускай установы.

У XV ст. нашыя суродзічы пачалі ездзіць па навуку у Прагу, дзе пры тамтэйшым унтвэрсытэце гэтаксама, як і у Кракаве, існавала з 1411 году бурса для студэнтау з ВКЛ. Зь цягам часу беларускае студэнцтва ужо асвойваецца у заходнеэурапейскіх вышэйшых навучальных установах (Балоньня, Падуя, Вітэнбэрг, Ляйпцыг, Жэнэва, Сарбона). Адзначым, што права для усіх станау грамадзтва вучыцца па-за межамі гаспадарства гарантавалася законамі ВКЛ (запіс пра гэта спатыкаем у Статуце ВКЛ 1588 г.).

Спаміж істотных для беларуса-студэнта XVI ст. падзеяу вылучым заснаваньне унівэрсытэтау у Каралячцы (цяперашнім Калінінградзе) ды у Замосьці (цяпер РП). Навучальня у даунейшай сталіцы Усходняе Прусіі мела за адну з найгалоунейшых мэтау распаусюджваньне лютэранства на абшарах ВКЛ, таму беларусы былі тамака жаданымі студэнтамі, а Вялікі магістар Альбэрт шчодра дау сродкі на стыпенды для найбольш здольных. Унівэрсытэт у Замосьці быу заснаваны у 1593 годзе, меу спачатку тры факультэты (філязофіі, медыцыны, права), а пазьней, ужо у сярэдзіне XVII ст., быу створаны чацьвёрты - тэалягічны. Апавядаючы пра гэтую навучальную установу, належыць узяць увагу на адну адметную дэталь. Рэч у тым, што ад пачатку існаваньня унівэрсытэту ягоныя студэнты дзяліліся паводле нацыянальнае прыкметы. Чатыры студэнцкія групы менаваліся карэннымі, а адна - чужаземнай. Спасярод першых чатырох першых згаданых групау былі й беларусы. Гэткім парадкам, нашыя продкі нароуні з палякамі мелі тамака правы гаспадароу, што, натуральна, спрыяла іхнаму навучаньню ва унівэрсытэце.

Трохі спрычыніліся да пашырэньня вышэйшай асветы спаміж беларусау навучальні у Дэрпце (цяпер Тарту, 1632 г. заснаваньня) і Львове (1661 г. заснаваньня).

Пералічыўшы унівэрсытэты Эуропы, якія давалі нашым суродзічам асягаць вяршыняу тагачаснае навукі, варта будзе зараз перайсьці найпя да вышэйшае школы у межах этнічнае Беларусі. Ведама, што на вельмі высокім роуні знаходзілася у другой палове XVI ст. беларуская сярэдняя школа. Дык жа тады й назіраецца узьнік першых у нашай краіне вышэйшых навучальных установау.

Напачатку згадаем юрыдычную Акадэмію, што была заснаваная у Вільні у 1566 годзе ды існавала на працягу 13 гадоу. Трэба зазначыць, што колькасьцяй выкладчыкау акадэмія перасягала лепшыя тагачасныя сярэднія школы, а аб'ёмам навукі не саступала унівэрсытэцкім факультэтам права. На жаль, няма зьвестак пра тое, ці маглі выпускнікі навучальні атрымоуваць навуковыя ступені (а гэта, дарэчы, адна з








Ведамая сваёй фундатарскай дзейнасьцю беларуская фірма "Dainova" устанавіла штомесячную стыпендыю студэнтам першае беларускае групы Менескага мэдычнага інстытуту. Зараз кожны з дзесяці хлопцау і дзяучат, што абралі мовай навучаньня беларускую, дадаткова атрымліваюць па 4700 рублёу штомесяц.

Пабачыу сьвет першынец навуковае сэкцыі Задзіночаньня Беларускіх Студэнтау расейска-беларускі хэмічны слоунік. Слоунік складзены студэнтамі сябрамі ЗБС (асабліва адзначым працу А.Глушко) і зьмяшчае больш за 2000 тэрмінау. Ад імя Рады ЗБС хочацца падзякваць фірму "Dainova", народнага дэпутата У.Новіка, нацыянальную выдавецкую кампанію "Беларусь Тэхналёгія" і нашага суайчыньніка з Францыі сп. М.Навумовіча, бяз дапамогі якіх выданьне гэтага слоуніка было-б немагчымае.

Усе, хто хоча набыць гэты слоунік, а таксама атрымаць дадатковую інфармацыю пра рыхтуючыеся новыя выданьні, могуць зьвяртацца па тэлефоне:
31-90-88- Аляксей.

Рэктаратам МДМІ было забаронена правядзеньне у інстытуце сьвяточнага фэсту прысьвечанага 75 угодкам БНР. Як было заяулена студэнтам:"Нет такого праздника".

Цікава будзе ведаць, што транспартныя ільготы для студэнтау на Украіне складаюць 80%, гэтак кошт месячнага студэнцкага квітку на гарадзкі транспарт (акрамя мэтро) каштуе 80 купонау (27 руб.) супроць 400 для усіх грамадзян.



НА ХВАЛІ АДРАДЖЭНЬНЯ

"А я бы всё равно не разрешил! Иш, белорусом стать захотел!" - скрыгоча зубамі ускрыкнуу у апошні раз "интер" у форме міліцыянта з габінету N3. Потна блішчэла ад напружаньня і расчараваньня голая макаука эмагара за "униженный, но могучий". А гэтым часам у суседнім габінеце N5 афармляуся новы пашпарт, у графе -імя, якога, замест знаёмага і мілага іному сэрцу "Дзмітрый" было напісана - Зьміцер.

Гэткая гісторыя адбылася у пашпартным стале Савецкага раёну м.Менску. Ад імя уладальніка новага пашпарту прыносім падзяку сп.Акулічу, начальніку вышэйузгаданае установы, бяз спрыяньня якога месячная барацьба з задужаактыуным прамаскоускім чыноуніцтвам магла мець іншы вынік.

Некалькі дзён таму павысіліся кошты адпрацовак прапушчаных заняткау у Менскім Мэдычным інстытуце. Зараз прапушчаная гадзіна каштуе 890 рублёу. Улічваючы, што заняткі у інстытуце чатырохгадзінныя, грошы набягаюць немалыя.

Цікава, чым выклікана гэткае новаувядзеньне? Мабыць зноу уздаражаньнем паставак энэрганосьбітау з Расеі, на што так любяць спасылацца беларускае чыноуніцтва усіх рангау.

У кнігарнях з"явіуся тэматычны плян выпуску літаратуры выдавецтвам "Навука і тэхніка" на наступны 1994 год. Падаем уніза ведамкі пра найбольш цікавыя, на наш погляд, кнігі, якія і раім замовіць у кнігарнях.

Галаунёу А.І.- Нацыянальная культура: Дынаміка разьвіцьця.

Тищенко А.М.- Проблемы культуры в западно-европейской философии конца XIX-нач.XX вв.

Ботвинник М.Б.- Г.М.Лившиц.

Бубенька Т.С.- Віцебск: Пасад- Дольны Замак X- сяр.XIV стст.

Гурын М.Ф.- Вытворчасць і апрацоука жалеза на Беларусі.

Заяц Ю.А.-Заславль в эпоху феодализма.

Кудрашова В.Я.,Лапіцкая В.Л., Чарняускі М.М.-Старажытныя шахцёры на Росі.

Нарысы гісторыі навукі і культуры Беларусі.

Трусау А.А.,Собаль В.Е.,Здановіч Н.І. - Стары замак у Гродне у XI- XVIII стст. Гісторыка-археалагічны нарыс.

Беларусы:Прамысловыя і рамесныя занят кі.

Дзербіна Г.В.- Права і сям"я на Беларусі эпохі Адраджэньня.

Кругалевіч В.А.- Станауленне беларускай дзяржаунасьці 1919-1922.

Слобожанин В.П.- Земское самоуправление в Белоруссии 1864- 1917.

Голас з невычэрпнай і жыватворнай крыніцы:Традыцыйная культура і моуныя асаблівасці Усходняга Палесся.

Гістарычны слоунік беларускай мовы. Вып.N15

Васючэнка П.В.- Драматургічная спадчына Я.Купалы.

Жураулёу В.П.- На шляху духоунага самасцвярджэння (Беларуская проза 20-х гадоу).

Барышау Г.І.- Батлейка (гісторыя XVI-XX ст.).

Кушнярэвіч А.М.- Культавае дойлідзтва Беларусі XIII-XVI стст.

Лакотка А.І.- Бераг вандраванняу:Адкуль у Беларусі мячэці.

Песьні беларускага Панямоньня.

Старажытнае мастацтва Беларусі:Жывапіс Заходняга Палесся.

Аляксееу Л.В.- Гродна і помнікі Панямоння.

Крауцэвіч А.К.- Тэутонскі ордэн: Ад Ерусаліма да Грунвальда.

Лозинская О.И.- Пинск 16 столетия.

Сэрыя "Нашы славутыя земляки"

Мархель У.І.- З-па-над Свіцязі узнеб ныя рытмы (пра А.Міцкевіча).

Сагановіч Г.М.- Страцім беларускай гі сторыі (пра М.Доунар- Запольскага).

Тарасау С.В.- Меч і слава Панямоння (пра Давыда Гарадзенскага).

Янушкевіч Я.Я.-Неадменны сакратар Адраджэння (пра В.Ластоускага).

Хочацца зьвярнуць вашую увагу на тое, што вытворча-камерцыйная фірма "Арціфэкс" рыхтуе да выданьня наступныя мапы і пляны:

1. Менск. Бізнэс і турызм сталіцы СНГ.
2. Вялікае княства Літоускае (копія мапы Т.Макоускага 1613 г.).
3. Беларусь на старажытных мапах.
4. Менск на старажытных мапах і плянах.
5. А таксама пляны усіх буйных гарадоу Беларусі на чатырох мовах.



Як нам паведамілі з Украіны,у Кіеускім тэхналёгічным інстытуце уведзена новая сыстэма стымуляваньня прагі студэнтау да ведау. Зараз стыпендыя кожнага студэнта залежыць толькі ад колькасьці выдатных адзнак, атрыманых на іспытах. Колькі адсоткау пяцёрак, столькі адсоткау атрымаеш звыш стыпендыі. Усе астатнія адзнакі пакуль нічога ня важаць.

Дыназауры сярод нас

У Беларускай Палітэхнічнай Акадэміі на факультэце горных распрацовак навучаецца апошні у гісторыі СССР майстра спорту па пяцібор'ю Андрусь Сопат.

Гэтае ганаровае званьне наш суайчыньнік прыдбау 30 сьнежня 1991 году,а на наступны дзень 31 сьнежня Саюз,як мы ведаем,зьнік з мапы сьвету.

Пад час свайё візыты на Берасьцейшчыну сп.Кебіч паабяцау у трауні падвысіць стыпендыі студэнтам на 100%. Адкуль такая шчодрасьць?






Тэзы лекцыяу павінны друкавацца на пачатку сэмэстру,а самі лекцыі павінны праходзіць у выглядзе кансультацыяу.Па жадана каб курс лекцыяу па адным прадмэце адначасова чыталі некалькі лектарау.

2.Шырэйшае выкарыстаньне індывідуальных праграм навучаньня.Стымуляваньне навукова-дасьледчае працы студэнтау.

3.Рэфома сыстэмы кантролю ведау. Увядзеньне магчымасьці здачы іспытау на працягу сэмэстру. Пераход да новых формау здачы іспытау:праз абарону навуковых прац,тэставага кантролю,прафэсый на-сытуацыйных задач.

4.Вакацыі. Акадэмічны адпачынак. Увядзеньне магчымасьці пасьля пасьпяховага заканчэньня студэнтам 1-га курсу бесперашкоднага атрыманьня ім акадэмічнага адпачынку. Час адведзены пад вакацыі ня можа быць заняты рашэньнем дэканату. У сувязі з гэтым неабходна скасаваць арт.28 закона "Аб адукацыі у Рэспубліцы Беларусь".

5.Дадатковыя курсы. Па жаданьню студэнт павінен мець права вывучаць дадатковыя дысцыпліны у іншых ВНУ (у тым ліку і за межамі Беларусі). Пры гэтым тэрмін навучаньня у іншых ВНУ не залічваецца у якасьці акадэмічнага адпачынку ці пропуска асноуных заняткау.

Канфэрэнцыя лічыць нямэтазгодным існаваньне беларускай і расейскай плыняу навучаньня, як перашкаджаючых працэсу навучаньня. На нашую думку у самы бліжэйшы час у ВНУ павінны застацца толькі беларускамоуныя групы навучаньня.



## З ДАЎНЕЙШЫХ БАЧЫНАЎ

Шукаючы падтрымкі собскім намаганьням прагнучы удасканаліць і зунівэрсалізаваць прасьцінкі штодзённае чыннасьці,імкнучыся лучыць у вабдоймы трывалае пэунасьці, мы можам прыйсьці па раду да папярэднікау. Гэта будзе памауленьне дзеля выйсьця да дужага апірышча. Кантакт можа стацца карысным, прынесьці ладны пажытак, проста зарыхтаваць.

Вось жа і уводзім рубрыку, дзе плянуем аднавіць сёе-тое з думак, паглядау і меркаваньняу "студэнтаущау" 20-30-х гадоу, спадкаемцамі якіх зьяуляемся, выдаючы цяперашнюю "Студэнцкую Думку". Маем намер падаваць тагачасныя матар"ялы як у скароце, гэтак і поунасьцяй, прытрымліваючыся аутэнтычнага правапісу.

Спадзяемся, што гэныя артыкулы, заценкі й літаратурныя творы дапамогуць чытачу сфармаваць уяуленьне пра патэнцыі беларускага студэнцкага руху у Вільні у міжваенным часе.

...Асьвета масы народу,падымак яе да асьветы агульна-людзкае, зьліцьцё з асьвечаным кругам ёсьць глыбока нацыянальнаю справаю і прыгатуе шырокае поле працы,каторае ужо ня будзе круціцца у цесным крузе выбраных. Толькі гэткая дарога ёсьць разумная,і уся будучая гісторыя нашага краю павінна ісьці па дарозе цывілізацыі й прогрэсу. Як толькі той ці іншы край зьбіваецца з гэтае дарогі, яго гісторыя задзержваецца. Можна спадзявацца, што й мы з часам будзем вітаць свой народ разьвіты цывілізацыяй. Але дагэтуль трэба прайсьці даугую дарогу развіцьця, аддаліць з яе мноства розных перашкодау. Тут прыдзецца выдзержаць барацьбу з абскурантызмам цямнотай у грамадзянстве. Нашаму нацыянальнаму разьвіцьцю няма іншае задачы, як збліжэньне з Эуропаю, пераняцьце і усабечаньне ад яе, як спосабау навукі, так і пануючых ідэяу у эуропэйскім грамадзянсьцьве, выкліканых яго рухам. Гэта ня пустая імітацыя. Яно мае разумныя асновы і па усабечаньні настае распрацаваньне і рашырэньне перанятага у сваім собскім сярадовішчы, самастойнае прытвараваньне да нашага народнага жыцьця й яго сьветазору.

(Алекса-Полацак Нацыянальная сьвядомасьць. "СД",1925 N1 )



У канцы мінулага року з ініцыятывы ЗБС у Менску была праведзеная агульнабеларуская студэнцкая канфэрэнцыя пад назвай "Нацыянальная вышэйшая школа на Беларусі". Дэлегаты,ці ня з усіх ВНУ Беларусі,за два дні працы пасьпелі ня толькі пераэнаёміцца, але напрацаваць такія-сякія прапановы.Уся праца канфэрэнцыі ішла па двух асноўных накірунках:беларусізацыя і арганізацыя навучальнага працэсу,-што знайшло адлюстраваньне у варганізацыі двух сэкцый.Па заканчэньні канфэрэнцыі на заключнае паседжаньне былі запрошаныя прадстаўнікі афіцыйных структураў, найперш Міністэрства адукацыі і Камітэту па справах моладзі пры СМ Беларусі.Такія-сякія кантакты завязаліся , поўнага паразуменьня,аднак,знайсьці ня патрапіла,але мы й ня мелі асаблівых ілюзій адпачатку.

Ведама,што закранутыя канфэрэнцыяй тэмы ёсьць такімі значнымі й складанымі,што мы,правядзеньнем канфэрэнцыі,і ня ставілі перад сабою недасягальных мэтаў.Галоўным вынікам адбыўшэйся акцыі,як лічаць арганізатары,была,заўважым- першая,спроба высьветліць незалежную студэнцкую думку па праблемах вышэйшае адукацыі.Нягледзячы на амаль поўную адсутнасьць хуткіх практычных вынікаў,мы пераканаты,што увогуле ня будзе жадных зьменаў,калі не рабіць хаця такія,на першы погляд,ня дужа эфэктыўныя акцыі.Акрамя таго мы лічым, што зараз вельмі важна уголас заявіць пра самастойныя погляды студэнтаў, а таксама паспрабаваць абудзіць і прыцягнуць да рашэньня сваіх праблемаў тых студэнтаў,якія дагэтуль ці спалі,ці ня мелі веры у магчымасьць уплываць на палітыку афіцыйных уладаў.Адным з крокаў у дадзеным накірунку з'яўляецца й зьмяшчэньне ніжэй некаторых прапановаў,выпрацаваных на канфэрэнцыі сэкцыяй па праблемах арганізацыі навучальнага працэсу.Тых, хто зацікавіцца азначанай тэмай просім дасылаць свае ідэі й меркаваньні на адрэсу рэдакцыі.

NAŠY SPRAVY

У кожнай ВНУ ствараюцца ворганы самакіраваньня студэнцкага, якія прадстаўляюць студэнцтва адпаведнай ВНУ.

Ворганы самакіраваньня студэнцкага абараняюць студэнцкія правы праз права вета у аб"еме устаноўленым кожнай ВНУ, але ня меньшым чым у законе аб ВНУ.

Дзейнасьць самакіраваньня студэнцкага рэгулюецца статутамі, зацьвярджаемымі у адпаведнай ВНУ.

### Арганізацыя навучальнага працэсу

#### Пастуленьне у ВНУ

- Адмена старых і ня увядзеньне новых ільготаў для паступленцаў. Адзіным крытэрыям для паступленьня могут быць толькі веды, выяўленыя пад час уступных іспытаў.
- Без уступных іспытаў прымаюцца студэнты на платнае навучаньне.

#### Навучальны працэс

Галоўнай мэтай унівэрсытэцкага навучальнага курсу павінна быць разьвіцьце у студэнтаў навыкаў самастойнай і навуковай працы. У сувязі з гэтым у падмурак унівэрсытэцкай адукацыі закладаюцца два асноўныя прынцыпы:

- шырокая тэарытычная падрыхтоўка
- самастойная праца

#### Праграма навучаньня.

Дзеля большай эфэктыўнасьці адукацыі неабходна адмовіцца ад калектыўна-прымусовага прынцыпу у арганізацыі навучальнага працэсу й перайсьці да прынцыпаў індывідуалізаванага й дыфэрэнцаванага падыходаў да навучаньня.

У сувязі з вышэйпрыведзеным мэтазгодна складаць праграму навучаньня з:

- Абавязковых дысцыплінаў
- Дадатковых дысцыплінаў
- Факультатыўных дысцыплінаў

Абавязковыя дысцыпліны - комплекс базавых прадмэтаў.
Дадатковыя дысцыпліны - фіксаваная колькасьць дапаможных прадмэтаў,абіраемая студэнтам.
Факультатыўныя дысцыпліны абіраюцца студэнтамі па сваім жаданьні і павінны заносіцца у дакумант аб адукацыі. У дакумант аб вышэйшай адукацыі павінны заносіцца й дысцыпліны,курсы па якіх студэнт праходзіў у іншых ВНУ.

#### Формы выкладаньня таксама патрабуюць адпаведных зьменаў.

1. Рэфома лекцыйнае сыстэмы. Увядзеньне вольнага наведваньня лекцыяў.

NAŠY SPRAVY

- Пятро, ты бачыу гэтманскую булаву? - спытау Іван Фёдарау у Пятра Мсьціслаўца, калі яны выпівалі у маёнтку Заблудава. - Гарна рэч.

Пятро Мсьціславец заклау нагу за нагу і, счакаушы аутарытэтна заззначыу:

- Я бачыу меч Льва Іванавіча Сапегі - о то інструмэнт!

Іван Фёдарау паківау галавою і сказау:

- Не, дружа Пятро, гэтманская булава Хадкевіча - гэта рэч, з такой булавою - ого-го!

- Ага, - сказау Пятро Мсьціславец, але вытрымау паузу й дадау:

- Я бачыу рызец Францішка Лукіча Скарыны - о то інструмэнт!

Іван Фёдарау паківау галавою і дадау:

-Не, дружа Пятро, гэтманская булава - ого-го!

У гэты момант у пакой зайшоу Гэтман Рыгор Іванаваіч Хадкевіч. З-пад ягонага кунтуша вытыркауся ладны кавалак булавы.

- Га-га, - сказау Рыгор Іванавіч.

- Ой, Рыгор Іванавіч, яка Ваша булава красна, - узрадвауся Іван Фёдарау і таму загаварыу казьліным голасам.

- Іванка, што ты рачэш на такой мове казьлінай? - адказау Рыгор Іванавіч.

Іван Фёдарау пакрыудзіуся на Рыгора Іванавіча й паехау у Львоу, а Пятро Мсьціславец кінуу вокам на гэтманскую булаву й паехау у Вільню.

Вось такая гісторыя адбылася у 1569 годзе.

Міраслау Шайбак
(Літаратура 1)



З ГУМАРУ

-Пайшлі кум у царкву!
-Э,ці хто яго!Я не такі набожны каб так часта у царкву хадзіць... От мой бацька быу,дай божухна,спакой яго душачцы,надта набожны.Бывала,калі й царква зачынена,дык ён або падкапаецца, або вакно выдзярэ,а усё-такі улезе.

У адзін дом прыехалі сваты. Гаспадыня вучыць дачку сказаць гасьцям,каб яны пілі-елі і не сароміліся.Дзяучына выйшла да гасьцей і гаворыць:
-Ешце,піце,госьці,няхай у вас сораму ня будзе.

Купілі неяк суседзі маленькае парася і дамовіліся,што гадаваць яго будуць разам,а калі заколюць,дык падзеляць мяса і сала па-роунаму.

Праз нейкі час падыходзіць адзін да другога і кажа:
-Чуеш,Мікола,ты як хочаш:хочаш гадуй сваю палову,хочаш пасьві,а я сваю калю.

У канцы споведзі ксёндз пытае дзяучыну:
-Ці ня было яшчэ якіх грахоу?
-Я пасьлізнулася.
-Ну,гэта нічога,хадзі асьцярожней.
-Як гэта нічога?! А з дзіцём што рабіць?

-Што зробіш,Антоля,калі пацалую цябе?
-Буду крычаць!
-А што тады будзе?
-Нічога,бо мы дома адні.

-Ты што украу?-пытае судзьдзя злодзея.
-Вяроучку,-кажа,- з рагамі.
-З якімі рагамі?
-З кароуімі.
-А карова дзе была?
-За рагамі цягнулася.

З ГУМАРУ

**Нумар падрыхтавалі:
Зьміцер Вайцяховіч,Зьміцер Салошкін,Юрась Бушлакоу.
Малюнкі Эдуарда Качана.**

"Studenckaja Dumka". Заснавальнік - Задзіночаньне Беларускіх Студэнтау.Рэдактар Зьміцер Вайцяховіч.Наклад 5000 паасобнікау.
Адрэс рэдакцыі:220040 Беларусь Менск, Сурганава 86-180 тел. 31-73-70.